

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (628)** **5 ЛІСТАПАДА 2003 г.**

# ДЗЯДЫ - 2003




2 лістапада 2003 года на Дзяды ў Менску 15-ты год запар жалобным шэсцем і мітынгам у Курапатах прайшло ўшанаванне памяці продкаў палеглых ад рук сталінскіх катаў у 30-я ды 40-я гады, а таксама ўсіх палеглых за Бацькаўшчыну.

Шматтысячнае шэсце распачалося ад парка Чалюскінцаў і доўжылася блізу трох гадзін па праспектах і вуліцах Менска, прырастаючы ўсё новымі і новымі людзьмі, якія ахвяраваліся сваім часам, каб яшчэ раз пакланіцца памяці ахвяраў бальшавізму.

Мітынг-рэквієм другі год праводзіўся не каля ўваходу, бо ён у выніку работ на кальцавой дарозе пачаў падтопліваца, а на пагорку ў цэнтры ўрочышча, які ў народзе ўжо назвалі "Галгофай".

На мітыгу выступілі прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх арганізацый, у тым ліку і Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

Слова мелі і вязні сталінскага рэжыму, ужо, праўда, толькі тыя, хто зведаў "рэальны сацыялізм" у дзяцінстве, такія як, напрыклад, Пятро Шашкель, які трапіў у Баранавіцкую перасыльную турму ў двухгадовым узросце.

Пасля мітынгу між соцень існых былі ўстаноўлены яшчэ дзесяць новых ахвярных крыжоў, як сімвал пакаяння нашчадкаў, за тое, што далёка не ўсё яшчэ зроблена на Беларусі, каб Курапаты не паўтарыліся.

**На здымках:**
1. Калона шыхтуецца.
2. Па Курапатах на "Галгофу".
3. На мітынгу-рэквіеме выступае Старшыня ТБМ Алег Трусаў.







# 135 гадоў з дня народзінаў Зміцера Даўгялы



Даўгяла Зміцер Іванавіч (20.10. (1.11.). 1868, в. Каз'яны Гарадоцкага пав., цяпер Шумілінскі р-н – крас. 1942 (?), беларускі гісторык, архівіст, археограф, крыніцазнавец. З сям'і протаіярэя. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894). Выкладаў у духоўнай семінарыі і мужчынскай гімназіі ў Віцебску. З 1897 архіварыюс Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў. Пасля зліцця ў 1903 архіва з Віленскім цэнтральным архівам старажытных актаў пераехаў у Вільню, дзе аднача-сова з архіўнай працай выкладаў у навуч. установах. Рэдагаваў газ. "Белая Русь" (1906). У 1906-15 чл. Віленскай археаграфічнай камісіі (з 1913 яе старшыня), кіраўнік спраў канцылярыі папячыцеля Віленскай навуч. акругі, кіраўнік спраў Паўночна-Заходняга аддзела Рускага геаг. тав., рэдактар "Записок Северо-Западного отдела Русского географического абщества"

Ганаровы чл. Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. З 1915 у Магілёве, працаваў у архіве. Далучыўся да бел. нац.-вызв. руху, удзельнічаў на Усебеларускім кангрэсе 1917. З 1921 заг. Магілёўскага губ. архіва. На 1-й Усебела-рускай канферэнцыі архівістаў выступаў з дакладамі і паведамленнямі па пытаннях архівазнаўства і археаграфіі. У 1925 чл. дзярж. камісіі па вяртанні архіваў Беларусі з Расіі (узначальваў З.Х. Жылуновіч). З 1925 супрацоўнік Інбелкульта, дацэнт БДУ, з 1929 дырэктар бібліятэкі АН БССР, у 1937 навук. супрацоўнік інта гісторыі АН БССР. Даўгяла быў складальнікам і рэдактарам "Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў", удзельнічаў у выданні Актаў Віленскай камісіі, падрыхтаваў прадмовы да т. 14 Археаграфічнага зборніка дакументаў. Рэдактар і складальнік "Беларускага архіва", падрыхтаваў "Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму", адзін са складальнікаў "Гісторыі Беларусі ў дакументах і матэрыялах". Публікаваў помнікі бел. дзелавога пісьменства і мовы. Першым даследаваў гісторыю і гіст. тапаграфію полацкіх, барысаўскага, свіслацкага, аршанскага замкаў. Аўтар прац па гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі. Вывучаў гісторыю нац. меншасцяў на Беларусі. 10. 12. 1937 арыштаваны і па пастанове пазасудовых органаў ад 11.9. 1939 высланы ў Казахстан на 5 гадоў. Паводле неўдакладненых звестак, памёр там. Рэабілітаваны пасмяротна 9.6.1964 г.

*Міхась Шумейка.*

---

24 кастрычніка 2003 г. № 235

**Спадару Альгірдасу Бразаўскасу**
**Прэм'ер-Міністру Літоўскай Рэспублікі,**
**г. Вільнюс, пр. Гедыміна, Дом Ураду**

**Вельмішаноўны спадар Альгірдас!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выказвае Ўраду Літвы ў асобе Міністэрства замежных спраў шчырую падзяку за тое, што ў Амбасадзе Літвы ў Рэспубліцы Беларусь нядаўна з'явіліся беларускамоўныя анкеты для наведвальнікаў. Гэты крок, несумненна, умацуе шматвяковыя беларуска-літоўскія культурна-асветніцкія дачыненні.

Паважаны спадар Прэм'ер-Міністр! Мы просім Вас аднавіць на нацыянальным радыё Літвы штодзённую дзесяціхвілінную беларускамоўную перадачу "Навіны для беларусаў Літвы", якая была скасавана 13 кастрычніка бягучага года. У апошні час яна выходзіла ў эфір на другой праграме з 17.20 да 17.30 і шмат год несла аб'ектыўную і цікавую інфармацыю для слухачоў краіны аб падзеях у Літве і Беларусі. Гэта перадача мае ўстойлівых слухачоў, і яны звярнуліся да нас з просьбаю аднавіць вышэйзгаданую перадачу.

Мы спадзяёмся, што Літоўскі Ўрад, разумеючы тую складаную сітуацыю, што ўзнікла зараз з ужываннем дзяржаўнай беларускай мовы ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі, асабліва на тэлебачанні, пойдзе нам насустрач у мэтах далейшага развіцця беларуска-літоўскіх стасункаў.

Нажаль, мы не можам напісаць нашу просьбу па-літоўску, бо не маем у кампутары адпаведнай праграмы. Пераклад на расейскую мову дадаецца.

З павагай
**Старшыня ТБМ** **Алег Трусаў.**



№ 41 (628) 5 ЛІСТАПАДА 2003 г. наша слова

# А, можа, прыслухаемся да Скарыны?

### *Рэдактарам Беларускай рэдакцыі "Радыё Свабода"*

***Паважаны рэдактар сп. Станіслаў Суднік! Дазвольце скарыстаць дэмакратычныя традыцыі "Нашага слова", каб давесці да чытачоў меркаванні, якія на вялікі жаль, мне не ўдалося ў належнай меры агучыць на "Радыё Свабода". А то ж з мяне зрабілі там недарэку.***

Паважанае спадарства, апошнім часам з цікавасцю слухаю перадачу "Жывое слова". Вядовец умее займальна будаваць сюжэт, валодае выразнай дыкцыяй, што немалаважна. Адно выклікае насцярожанасць: мала, што ён выказваецца з інтанацыяй агульнапрызнанага мэтра, але, здаецца, прадстаўляе толькі пазіцыю тых маладых філолагаў, якіх і цяпер іншым разам называюць "нефармаламі", што з самага пачатку публічнага самавызначэння арыентаваліся толькі на моўную культуру беларускіх эмігрантаў, "тарашкевіцу", запэўніваючы, што гэта – адзіна патрыятычнае і нацыянальна бездакорнае лінгвістычнае веравызнанне. Хаця, тую ж "наркамаўку" даўным – даўно перапрацавалі і асімілявалі згодна з жывой, сучаснай беларускай гаворкай некалькі пакаленняў майстроў мастацкай літаратуры. Да таго ж і шмат хто з нашых шаноўных эмігрантаў, мяркуючы па маіх асабістых кантактах з імі, мудра прызнае базавую каштоўнасць лінгвістычнай навукі ў самой Беларусі. Бо што спрабаваць вярнуцца ў мінулае? Моўная стыхія, як важная частка чалавечага жыцця, падобна на плынь ракі часу – у адзін і той струмень нельга ступіць двойчы.

Ды гэта ўсё я пішу "з нагоды", а так і далей, відаць, проста слухаў бы (або ціха перастаў) згаданую радыёперадачу, каб нядаўна (13 верасня, вечарам у паўторы) не "зачапіўся" слыхам за тлумачэнне адзіна, на думку вядоўцы, бездакорнага сэнсу слова "дзякуй", а адсюль і яго ўжывання. Вядовец адназначна сцвярджаў: *"Гэта назоўнік, паходжаннем (чаму? Э.Я.) са старажытнай нямецкай мовы. Роду мужчынскага, а не ніякага, як некаторыя думаюць, бо ў іх гэта ад перайманне (калькавання) расейскага "спасибо"*. І не заўважае шаноўны вядовец, што сам жа, нібыта адвяргаючы, гэтую расейскую мадэль і прызнае. Расейскае "спасибо" распаўсюдзілася ў асноўным у савецкі час, калі зганілі (а потым і зусім забылі) сапраўднае значэнне выразу – "Спаси Бог". У савецкі ж час распаўсюдзіўся і беларускі аналаг – загадная форма дзеяслова ***"дзякаваць"*** у якасці назоўніка.

У адрозненне ад вядоўца "Радыё Свабода", акадэмічны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", хоць ён і "савецкі" (выданне 1978 г.), паставіўся да згаданага слова больш талеранта. Слоўнік дае ажно тры ягоныя "іпастасі": 1)як часціцы, 2) як назоўніка, і 3) як дзеяслова, бо існуе ж і шырока ўжываецца словаформа "дзякаваць", якая ну аніяк не выглядае назоўнікам.

Дык адкуль у нас увогуле гэтае слова? Не высвятляў адносна верхне-нямецкага генезісу, але дакладна ведаю, што калісьці ў нашых продкаў было слова ***"дзяка"***, адкуль і захаваліся нашы цудоўныя ***"падзяка"*** ды ***"ўдзячнасць"***.

***Дзяка*** – гэта быў самы пачэсны падарунак, знак асаблівай павагі да чалавека – хлебам (яго абрадавая адметнасць захавалася, і па тым жа тэлевізары мы пастаянна бычым, як нейкаму ганароваму госцю ўрачыста падносяць каравай хлеба на вышытым нацыянальным узорам ручніку). Пазней феадалы прымусілі залежных сялян даваць "дзяку" ўжо абавязкова – за карыстанне іхняй зямлёй. Але па-ранейшаму менавіта збожжам – жытам, пшаніцай, ячменем. У статуце Вялікага Княства Літоўскага ёсць назва гэтаму падатку – ***"дзякло"***, і каму і пры якіх абставінах яго даваць.

Цяпер назаву імя таго, хто яшчэ дакладна ведаў сэнс гэтага слова і ўжываў яго ў сваіх творах напачатку ХУІ стагоддзя. Маю на ўвазе вялікага беларуса Францішка Скарыну. Вось сказ з ягонай Псалтыры (с.45б): ***"Есть род... еже не дякуеть матері своей"***. З Кнігі Царстваў (с.77б): ***"...дяковал за такое обещаніе царь Давыд"***. З Другазаконня (с.46): ***"Он лежа под одежею своею дяковал тобе"***. Ва ўсіх прыкладах, як бачым, Скарына адназначна ўжывае слова ***"дзякаваць"*** у якасці дзеяслова.

Не складана прывесці і яшчэ пераканаўчыя прыклады з твораў самых аўтарытэтных беларускіх майстроў літаратуры самых розных пакаленняў, у тым ліку дасавецкага Янкі Купалы, але, мяркую, дастаткова аўтарытэту Скарыны.

Увогуле ж вельмі пажадана, каб шаноўны вядовец "Жывога слова" не толькі сам выступаў, а і (па прыкладу Сяргея Дубаўца ці Кастуся Бандарука) запрашаў да мікрафона вучоных-лінгвістаў самых розных школ і кірункаў. І ў першую чаргу запрасіць бы акадэміка Аляксандра Падлужнага, аднаго з заснавальнікаў і актывіста Таварыства беларускай мовы. Ён цікавы суразмоўца і без усякай фанабэрыі.

Галоўнае ж мае пажаданне, дарагія свабодаўцы, старайцеся не "зашорвацца" і ўсяляк садзейнічаць развіццю культуры добразычлівай дыскусіі ў нашым яшчэ такім савецкім грамадстве. Поспехаў вам! Жыве Беларусь!

**Эрнест Ялугін.**
**15.09.03 г.**

*Вось такі ліст я даслаў на адрас Беларускай рэдакцыі "Радыё "Свабодай". Замест таго, каб проста зачытаць яго (няхай бы і скарочаным у разумных межах) ў якасці водгуку слухача, вядовец радыёперадачы выхапіў адтуль цытату адносна сувязі паміж формай "дзякуй" і савецка-расейскім "спасибо" і пачаў даводзіць, што, маўляў, і тое, і другое існавала яшчэ да рэвалюцыі, а "дзякуй" увогуле траплялася ў ХУІ стагоддзі, не прывёўшы, аднак, ніводнага канкрэтнага прыкладу. Затым зноў паўтарыў, што "дзякуй" паходзіць ад нямецкага "danke". То тады ўжо чаму б не ад польскага "dzenkczynienie", дзе адназначна заўважаецца наша "даніна хлебам" (прынашэнне падзякі)? Калі ўжо цурацца айчыннага, беларускага паходжання слова.*

*Адно цешыць: усё ж напрыканцы вядовец ўжо мусіў заўважыць, што* ***"дзяку"*** *можна ўжываць, як у форме назоўніка, так і ў якасці дзеяслова. Прагрэс, аднак. Але няхай бы мы заўсёды стараліся найглыбей спасцігнуць вытокі роднага слова, а не ўжывалі нешта механічна.*

*Э. Я. 16.10.2003 г.*




У адным з лепшых у Рэспубліцы Беларусь аграпрадпрыемстваў аграфірме "Сноў" Нясвіжскага раёна не цураюцца беларускай мовы.

**На здымку:** фірменная крама "Сноў" у Нясвіжы.

*Роздум*

# Не стаць бы чужынцамі ў сваім доме

У цывілізданым свеце інтэлігенцыю прынята лічыць элітай нацыі, яе гонарам. І на Беларусі яна, асабліва ў гады сярэднявечча, калі Літоўска-Беларускае княства дасягнула свайго эканамічнага і культурнага росквіту, была такой элітай, з яе выйшла нямала славутых вучоных, пісьменнікаў, здолеўшых замацаваць беларускую мову як дзяржаўную. На жаль, на працягу двух стагоддзяў панавання спярша расейскага імперыялізму, а затым і бальшавіцкай дыктатуры, інтэлігенцыю ў нас усяляк зневажалі, ад яе лепшых прадстаўнікоў улады стараліся пазбавіцца – успомнім страшныя 30—40-я гады мінулага стагоддзя. Таму паступовa ў ёй размываўся нацыянальны фактар, інтэлігенцыя ахвотна стала працаваць у чужым культурна-моўным рэчышчы, асабліва ў горадзе.

Гэты нацыянальны нігілізм, на няшчасце нашае, дайшоў да таго, што многія з нас сёння і нацыянальную культуру, і гісторыю сваю ведаюць на ўзроўні ведаў пра нас суседзяў-расейцаў, украінцаў, палякаў і, што крыўдна, не жадаюць папаўняць іх.

Неяк пацікавіўся ў абанементным аддзеле цэнтральнай гарадской бібліятэкі, як шмат у іх бывае наведвальнікаў і якімі кнігамі яны часцей за ўсё цікавяцца, што бяруць. Мне паведамілі, што ўзімку і ранняй вясной у выхадныя абслугоўваюць чалавек 120-130 за дзень, у будзённыя дні – крыху меней. Большасць цікавіцца расейскамоўнай літаратурай аповесцямі і раманамі крымінальнага жанру, фантастыкай, мемуарамі вядомых гісторыкаў, ваеначальнікаў-асабліва з ліку пенсіянераў.

- А колькі чалавек бяруць творы беларускіх пісьменнікаў – іх у краіне звыш пяцісот чалавек і выбар твораў багаты, - пацікавіўся я.

- Не болей трох-чатырох чалавек, мы ўжо іх ведаем, - з сумам адказала бібліятэкарка. – Ды і тыя пераважна былыя настаўнікі, журналісты на пенсіі. Моладзь рэдка бярэ беларускія кнігі, хіба што вучні старэйшых класаў, каму трэба той ці іншы твор па школьнай праграме.

- І гэта ў горадзе, дзе больш за 80 адсоткаў жыхароў – беларусы. Як бачна, мы ўжо перарадзіліся ў тых Іванаў, якія не памятаюць сайго радства.

Не так даўно Слуцк наведала пяць беларускіх пісьменнікаў на чалае з экс-старшынёй СБП Вольгай Іпатавай. Аб гэтай падзеі у рэгіянальнай мясцовай газеце "Кур'ер", што выходзіць накладам у 3500 асобнікаў, за пяць дзён да іх прыезду была змешчана абвестка з указаннем дня і часу сустрэчы ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы і яе філіяле паблізу цукрова-рафінаднага камбіната на заходняй ускраіне горада. І што ж? Нібы прадбачачы абыякавасць мясцовай інтэлігенцыі і перш за ўсё настаўнікаў, адміністрацыі бібліятэк пакаліся аб тым, каб не зведаць сораму перад шаноўнымі гасцямі – запрасіла чалавекл пяцьдзесят навучэнцаў з медыцынскай навучальні, а для філіяла з прафтэхнавучальні № 7 і старшакласнікаў размешчанай паблізу сярэдняй школы. Там сустрэча прайшла днём, а ў цэнтральнай бібліятэцы пад вечар. Сюды прыйшло мо чалавек трыццаць дзяўчынак з меднавучальні, ды яшчэ не болей дваццаці пенсіянераў з ліку настаўнікаў, бібліятэкаркі, чалавекі два з літаб'яднання "Случ" і два журналісты, у ліку іх і аўтар гэтых радкоў. Скупа для горада, дзе адных працоўных настаўнікаў каля тысячы, ды яшчэ не меней чатырохсот лекараў, прадстаўнікоў тэхнічнай інтэлігенцыі. Яны, на вялікі жаль праігнаравалі гэтую сустрэчу, якая прайшла на самым лепшым, як кажуць, узроўні, хоць госці, адчувалася, здзівяляліся гэткай масавай абыякавасці слуцкай інтэлігенцыі да беларускай літаратуры.

Як бачна, не ўзышло яшчэ у "нізах" духоўнае зерне нацыянальнага адраджэння, не зарунела. Хоць і прагляддаліся у першыя гады перабудовы нейкія кволыя парасткі. У горадзе на беларускую мову навучання пераведзены былі амаль усе сярэднія, (а іх тут 12) школ і дзіцячыя садкі-яслі. Аднак пасля сумнеўдомага рэферэндуму 1995 году адраджэнцкія настроі сталі затухаць, і ўжо сёння большасць школ зноў стала рускамоўнымі, садкі-яслі – таксама, пагалоўна. Гэты нігілізм, абыякавасць да ўсяго нацыянальнага праявіліся і сёлетняй вясной, калі ішла падрыхтоўка да першага усебеларускага з'езду інтэлігенцыі. Са Случчыны на яго не прыехаў ні адзін дэлегат! На тое былі і прычыны: аб маючым адбыцца з'ездзе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі нічога не паведамлялі загадзя, а падпісчыкаў на незалежныя рэспубліканскія выданні па гораду і раёну набіраецца не болей... трох соцен чалавек. Ды і што казаць – хто можа і жадаў паехаць на з'езд, але збаяўся, каб потым не страціць месца работы.

І прыпомнілася мне выказванне вядомага беларускага пісьменніка-дэмакрата Язэпа Лёсіка пра 1-ы з'езд настаўнікаў Меншчыны ў траўні 1917 году: "З'езд выявіў нечуванае ў гісторыі відовішча. Сыны народа, светач вясковай цемры, адракліся ад Бацькаўшчыны сваёй, адцураліся мовы бацькоў сваіх ды на ўвесь свет выславілі, што яны ненавідзяць усё роднае, беларускае і рады і надалей цягнуць ярмо маскоўшчыны і нацыянальнага уціску. Рабы былі і рабамі засталіся"

85 гадоў мінула з той пары, а словы гэтыя пякучыя, на жаль, не ўстарэлі канчаткова і сёння, бо многае вакол нас дзеецца не лепей, чым на тым з'ездзе настаўнікаў Меншчыны пасля лютаўскай рэвалюцыі.

*Міхась Тычына, г. Слуцк.*





# Дзяды ў Лошыцы

Дзяды – дзень, калі нашчадак не толькі асэнсоўвае пражыты год, але і задумваўся над сэнсам свайго асабістага жыцця на аснове ўспамінаў аб добрых прыкладах сваіх продкаў. Вось тут і ёсць галоўная нацыянальная ідэя існавання беларусаў на свеце – быць моцнымі розумам сваіх продкаў, узбагаціцца іх жыццёвым досведам.

Лошыцу на тое месца, дзе забівалі нявінных людзей. Гэта месца масавых растрэлаў насельніцтва, учыненых сталіністамі у 1937-1941 гадах.Тут паставілі Крыж. У вось кожны год мы прыходзім да яго. Мы – гэта сябры Таварыства беларускай мовы, партыі КХП і БНФ Ленінскага раёна, АГП. Мы садзім кветкі ля крыжа, прыбіраем, вырываем пустазелле, фарбуем крыж. Крыж гэты





Калісьці З. Пазьняк пісаў: "Мы нікуды не дзенемся ад нашай гісторыі. І жывыя, і мёртвыя – мы адно. Мы – народ, і калі мы ўжо мёртвых нічым не ўспаможам, то мёртвыя нас успамогуць. Яны могуць асвяціць нам шлях, асвяціць нашы душы сваімі пакутамі. Ускалыхнуць нашы розумы, сэрцы і дух, калі толькі таго мы захочам..."

З. Пазьняк першым прыйшоў у

– сакральнае месца духоўнага яднання жывых, уласнае ачышчэнне і атрыманне духоўнага зараду чалавечага сталення. Крыж – гэта напамінак жывым аб тым, што зямное існаванне вечнае ў бясконца эстафеце спадкаемцаў; кожны з нас трымае ў руках свечку жыцця і павінен зрабіць усё магчымае, каб яна ніколі не згасла.

**На здымках:** У Лошыцы 25.10.03 г.

*Тамара Грузнова.*

Віцебская абласная арганізацыя ТБМ, працягваючы традыцыі Таварыства, выдала каляндарык, прысвечаны памяці Анатоля Канапелькі, былога намесніка старшыні гэтай арганізацыі, які пайшоў ад нас у 2002 годзе.




*Чылікін-Садэльскі.*

## Ля магілы Васіля Быкава
(экспромт)

Паліў я свечачкі патухлыя,
Ад гора беларускага набухлыя

А свечачкі ўсё тухнуць, тухнуць
На Беларусі ад здзекаў людзі
жухнуць, жухнуць,

За кратамі пакутна гінуць,
Толькі, каб краіну Беларусь
жывой пакінуць!

* * *

Паліў я свечачкі патухлыя,
Ад гора беларускага набухлыя...

*10.07.2003 г.*

# Здрапежаная зямля

У выдавецтве УП "Тэхнапрынт" выйшла кніга Алеся Петрашкевіча "Здрапежаная зямля". У кнігу ўвайшлі гістарычныя п'есы "Крыжовы шлях на Грунвальд", "Расплата за здраду", "Каралеўска-царская пастка", "Рупнасць дзяржаўцы", "Час усё адкрые", "Развітанне з Радзімай", "Рыцар свабоды", "Апошні збройны чын", "Наканавана быць прарокам", "Дагарэла свечачка". На жаль наклад кнігі склаў толькі 250 асобнікаў і знайсці яе, калі пашанцуе, сёння можна хіба толькі ў сядзібах ТБМ ці БНФ.

Нагадваем нашым чытачам, што п'есы "Час усё адкрые" і "Рыцар свабоды" ўпершыню былі апублікаваны менавіта ў нашай газеце. І паколькі наклад кнігі ну ніяк не адпавядае ні мастацкай, ні гістарычнай значнасці п'есаў сп. Петрашкевіча, то газета абяцае сваім чытачам пазнаёміць іх і з некаторымі іншымі п'есамі. Прынамсі да 210 угодкаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі мы плануем публікацыю гістарычнай драмы "Развітанне з Радзімай"




# Сустрэча з Утай Цапф

31 кастрычніка 2003 г у Менску адбылася сустрэча кіраўніка працоўнай групы на Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ Уты Цапф з прадстаўнікамі найбольш вядомых і ўплывовых няўрадавых арганізацый нашай краіны.

Сярод запрошаных быў і Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў. Ён распавёў пра колькасны склад арганізацыі і яе рэгіянальныя структуры пра дзейнасць ТБМ па абароне лінгвістычных правоў грамадзян Беларусі, пра ўзаемаадносіны з беларускай уладай, асабліва з Міністэрствам юстыцыі.

Алег Трусаў перадаў сп. Цапф дакументы прынятыя апошнім УІІІ з'ездам ТБМ, кнігу пра Курапаты і прапановы ТБМ на стварэнні міжнароднага спадарожнікавага беларускамоўнага тэлеканала. Ён таксама выказаў падзяку амбасадару Германіі ў Беларусі сп. Фраку, за актыўнае выкарыстанне дзяржаўнай беларускай мовы ў працы амбасады.

*Наш кар.*

## У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЦЦЁМ МЕМАРЫЯЛЬНЫХ ДОШАК УВЕКАВЕЧАНА ПАМЯЦЬ ВЯДОМЫХ ЗЕМЛЯКОЎ — ІВАНА ЧЫГРЫНАВА І ВІКТАРА ТУРАВА

Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі народнаму пісьменніку Беларусі Івану Чыгрынаву адбылося 31 кастрычніка ў Магілёве. Яна ўстаноўлена на фасадзе будынка сярэдняй школы № 6, размешчанай на вуліцы, якая носіць імя вядомага празаіка і сцэнарыста, ураджэнца Касцюковіцкага раёна. У айчыннай літаратуры ён пакінуў яркі і самабытны след, яго апавяданні, аповесці, а потым і раманы пра вайну — "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві" і іншыя сталі класікай, увайшлі ў школьныя падручнікі, набылі другое жыццё на многіх мовах свету.

29 кастрычніка ў Магілёве прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя адкрыццю мемарыяльнай дошкі яшчэ аднаму славутаму земляку магіляўчан, кінарэжысёру, народнаму артысту СССР Віктару Тураву. Памятны знак устаноўлены на будынку кінатэатра "Радзіма", у якім прайшла не адна прэм'ера яго фільмаў. У цырымоніі ўдзельнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі і Магілёўскага аблвыканкаму, родныя і сябры рэжысёра, артысты з Менска і Масквы, якія здымаліся ў многіх стужках майстра экрана.

*Ірына КОРЗУН, БелаПАН.*

## У СВІСЛАЦКІМ РАЁНЕ ЗАСОХЛА САМАЕ СТАРОЕ ДРЭВА Ў БЕЛАРУСІ — 700 - ГАДОВЫ ДУБ

У Свіслацкім раёне Гарадзенскай вобласці экологі афіцыйна пацвердзілі смерць самага старога, паводле іх звестак, дрэва краіны — 700-гадовага дуба. Такіх дрэў-доўгажыхароў у свеце адзінкі, сцвярджаюць яны. Стаіць ён на беразе маляўнічай рэчкі Рудаўкі, у некалькіх кіламетрах ад паўночнай ускраіны славутай Белавежскай пушчы.

Датай нараджэння волата спецыялісты лічаць 1300 год. Плошча сячэння яго ствала — каля 6 квадратных метраў, вышыня кроны — больш за 30 метраў. Месца, дзе рос лясны патрыярх, валодала нейкай магічнай сілай, станоўчай энергетыкай, таму да яго пастаянна цягнуліся людзі. Тут планавалася стварэнне аднаго з пунктаў экалагічнага маршруту, турыстычнае абуладкаванне кутка прыроды, які стварала ўнікальнае дрэва. Не паспелі. Хаця, па прагнозах батанікаў, дуб будзе стаяць яшчэ некалькі гадоў, пакуль на яго ствале будзе заставацца кара.

*Віктар МАКАРЭВІЧ, БелаПАН.*

*Слухай сваё*

## "P.L.A.N." у новым абліччы

***"P.L.A.N." – "Вам слова, Джон Ячмень!", Мн., 2003, студыя А. Плясанава***

Ці не нагадвае вам назва гэтага альбома адзін з тытулаў папулярнай у 80-х гадах беларускай кніжнай серыі "Паэзія народаў свету"? Так сапраўды называўся томік Роберта Бёрнса ў перакладах Язэпа Семяжона. А лідар гурта ***"P.L.A.N."*** Андрэй Плясанаў здаўна любіць гэтага шатландскага паэта і стварыў нямала блюзаў і рок-н-ролаў на ягоныя вершы.

Зрэшты, у гэтым альбоме Бёрнс толькі адзін – "Джон Ячмень", - але гімнаў і одаў празрыстаму бурштынаваму напою тут значна болей: "Мы п'ём", "Скрыпблюз" і г. д. Думаецца, зусім натуральна, што гэтае збежышча півахвалаў узначаліў генерал жанру, вялікі шатландзец Роберт Бёрнс:

***І ў бочку ссыпалі, на дно,***
***Прах сэрца з шорсткіх жмень,***
***Але і там усё адно***
***Ні згінуў Джон Ячмень.***
***Жывы-жыве! Як у катле,***
***Пад абручом бурліць,***
***Прэ пенай з кубкаў на стале***
***І душу весяліць.***

Праўда, песні пра піва – гэта не толькі ўхвала п'янству.

Гурт ***"P.L.A.N."*** яшчэ ў дэбютным сваім альбоме "Blues у канцы тунэлю" выявіў схільнасць да сур'ёзнага сацыяльнага аналізу, метафарычных абагульненняў. Нават у піўной песні "Мы п'ём" ("Тост пакрадзеных святаў") чуецца выразны антыалкагольны намёк і жарсткае пытанне: "За што?" А адказ не суцяшае, таму што з аднолькавым захапленнем п'ём мы і за руку сябра, што падтрымлівала, і за руку здрадніка, што піхнула цябе, і за тое, што збылося, і за тое, што не збылося"

У альбом увайшлі песні, напісаныя Андрэем Плясанавым (музыка і тэксты) ў розныя гады, але шчыльна падабраныя тэматычна і настраёва, таму не трэба думаць, што ягоны "Джон Ячмень" можа толькі загрузіць і расхваляваць.

Вось нават сам пачатак альбома – "Ой, Дуся, Дуся" - у форме жвавага, сакавітага рытм-энд-блюза з выразнымі цытатамі з Дж. Хендрыкса дае вясёлыя, жыццёвыя рацэпты добрай гуморы:

***Ой, Дуся, Дуся,***
***З табой люблюся,***
***Ну дык давай стварыць хутчэй***
***Не проста дзетак,***
***А беларусаў,***
***Каб беларус не знік з вачэй.***

Акрамя прыколаў бытавой тэматыкі гурт ***"P.L.A.N."*** стварае і казачна-рамантычныя вобразы ("Вогненная птушка"), і мадэрнавыя асэнсаванні жыцця ("Віртуальная хуткасць") і нават часам злівае нястрыманую плынь свядомасці ("Кома-тэле"). Шэраг твораў з пункту гледжання тэкстаў прэтэндуюцьператварыцца ў крылатыя выразы дзякуючы сваёй празрыстай метафарычнасці: "Любоў вышэй за нянавісць", "Рок-н-рол-шанц"...

Але ж якімі стылістычнымі сродкамі ўвасабляецца такі шырокі спектар пачуццяў? Рэч у тым, што музычныя тэрміны блюз, рок-н-рол, якія мільгаюць у назвах, не здольныя надта дакладна выявіць усю сутнасць. Тут вельмі істотным, напрыклад, становіцца тое, што ў працэсе працы над альбомам гітарыста Георгія Станкевіча замяніў не менш знакаміты Андрэй Дзяменцеў ("Калі Юга"). Почырк у абодвух кардынальна розны, таму ***"P.L.A.N."***, захоўваючы меладычную блюзавую мяккасць, нечакана набыў выразныя металічныя рыскі, у якіх хуткія пальчыкі Андруся здольныя выпісаць віртуознае пластычнае беспярапыннае сола аж на 32 такты (больш за хвіліну). І слухач зусім не засумуе за гэты час (слухайце, напрыклад, "Вогненную птушку").

Незалежныя слухачы, якія не абцяжараны абавязкам грунтоўнага стылістычнага аналізу, нават і не заўважаюць кардынальных змен у абліччы новай блюзавай зоркі. Проста, кажуць, у сваім другім альбоме гурт выразна пажвавеў, прыдбаў энергетыкі, сакавітасці. Дык баладзе.

*Вітаўт Мартыненка.*

# Людзі зямлі нашай

За штодзённымі клопатамі нашага нялёгкага жыцця мы неяк амаль не заўважаем, прынамсі, не задумваемся, хто побач з намі, з кім мы сябруем, па суседску жывём і працуем.

Але, калі на імгненне спыніцца, задумацца, уважліва азірнуцца...

Ёсць сярод нас сціплы, нічым непрыкметны чалавек. Наш аднадумца, шчыры беларус з простым і прыгожым імем: Віталь Равінскі.

І вельмі хочацца расказаць людзям пра гэтага някідкага, але такога багатага нутраным сваім цяплом чалавека.

Спадар Віталь у свае ўжо і немаладыя гады мае цудоўную беларускую сям'ю, якіх у нас звыклая безліч. Жоначка, шаноўная спадарыня Элеанора (для беларусаў некалькі нязвыклае імя) – невысокая, вытанчаная, прыгожая тварам і душой жанчына. Заўсёды ветлівая, спагадлівая і разважлівая, што стварае нейкую цёплую і прываблівую ўтульнасць іхняму гасціннаму дому. Дачушка Волечка, якая радавала бацькоў змалку, цяпер ужо адзінаццаты год гадуе іхняе вялікае шчасце – унучачку Ганулечку і, дасць Бог, будзе працяг і папаўненне.

Віталь Равінскі – нашчадак знанай старажытнай беларускай шляхты. Не так ужо і аддаленыя продкі былі вывезены ў "сібірскія маразы" за ўдзел у вызвольным руху. Вядомая палітыка маскоўскай імперыі па этнацыду ліцьвінаў-беларусаў.

Але, мусіць, генная памяць неадольная: вярнуўся Віталь-юнак на этнічную Радзіму-Беларусь, не адолеўшы тугу па сінявокай і вабу водару зямлі продкаў.

Безумоўна, чалавек з такім генным ланцуждком, з такой памяццю крыві не мог не стаць у шэрагі руху, які змагаецца за Незалежнасць, Дзяржаўнасць, Свабоду Маці-Беларусі. І адразу ж высветлілася, што гэты хударлявы, ніяк не падобны на волата чалавек тоіць у глыбіні высакароднай душы магутную энергію, адвагу і мужнасць шараговага жаўнера, які ніколі не хаваецца за спінамі іншых. А таксама сапраўдны талент паэта-барда. Прафесія – лекар, мусіць, натуральны дадатак ягонай гуманістычнай місіі на зямлі, вызначанай яму Богам.

І вось дзіва, без аніякай цяжкасці, вельмі хутка засвоіў і перайшоў на мілагучную мову продкаў у побыце, творчасці, жыцці. Зноў жа – генная памяць.

Ягоныя вершы, ягоныя песні вельмі сугучныя з філасофіяй Уладзіміра Высоцкага, карані якога, кажуць таксама з Беларусі. Творы спадара Віталя самыя разнастайныя, тут і лірыка, і каханне, і розныя жыццёвыя сітуацыі.

Але амаль ва ўсіх вершах-песьнях пранізліва гучыць, дзе наўпрост, а дзе падсвядома адна святая, нясканчоная і невычарпальная тэма беларускага патрыятызму, боль за Радзіму і сыноўская любоў да яе.

Ягоныя песні гучаць на ўсіх нашых мерапрыемствах: шэсцях, мітынгах, святкаваннях, вечарынах-сустрэчах з моладдзю. Яны натхняюць, сілкуюць энергіяй і мужнасцю. Вось люстраны адбітак нашай сучаснасці:

***Чорная зграя топча Айчыну,***
***Пнецца зламаць нас, збіць, скатаваць.***
***Толькі адвага нас не пакіне,***
***Продкі-ліцьвіны ўслед нам глядзяць.***

І гучыць мужны, магутны заклік да змагання, да абароны Радзімы:

***Хопіць трываць ганьбу і здзек,***
***Стань, Беларусь, вольнай навек.***
***Хопіць цярпець гвалт і прымус,***
***Воля ці смерць! Жыве Беларусь!***

І нават у "Застольнай", якую мы пяём часта, і бадзёра, і дружна ёсць такія радкі:

***Дык налівай, брат, налівай***
***І вып'ем пад "Застольную"***
***За родны край, за любы край,***
***За Беларусь, за вольную.***

Само сабою зразумела, што пры сучасным рэжыме гэткія творы не будуць гучаць па радыё ці тэлебачанні, як не гучаць песні Сокалава-Воюша, Данчыка, Віктара Шалкевіча, Алега Атаманава... Не гучаць яны і з беларускіх сцэнаў, якія аддаюцца ў асноўным расейскім гуртам, ды не самай высокай вартасці.

Але, адчуваю сваёй беларускай збалелай душою, хутка прыйдзе час "і збудзіцца, і збудзецца". "Магутны божа рассыпле над Беларусяй прамені свае хвалы", і стане Край наш свабодным і шчаслівым, а народ наш – гордым і духоўна багатым.

І тады стануць запатрабаванымі беларускія рупліўцы нацыянальнай культуры. Загучаць магутна ва ўвесь голас родныя песні, у тым ліку нашага таленавітага патрыёта, паэта-барда Віталя Равінскага.

*Ян Грыб, старшыня Рады ТБМ Кастрычніцкага раёна г. Менска.*

# Гістарычная Ліда ў творах мастакоў

24 кастрычніка ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адкрылася выстава "Гістарычная Ліда ў творах мастакоў". Былі выстаўлены, як арыгінальныя творы сучасных мастакоў, і ў першую чаргу лідскіх, так і копіі да рэпрадукцый вядомых твораў Гразнова, М. Кулешы, Н. Орды, Я. Драздовіча.

Безумоўным адкрыццём выставы стала экспазіцыя 16 копій гравюр з відамі Ліды, выкананых у 1916-17 гадах нямецкімі салдатамі-мастакамі В. Райманам, Э. Гальцлайнерам, Э. Сандарам, Э. Райнам. Усяго было створана 25 (35) гравюр. У 1917 годзе яны былі сабраны ў альбом Карлам Фогелем і выдадзены 21 верасня 1917 года Вайсковай акруговай адміністрацыяй г. Ліды асобным выданнем. К. Фогель выканаў вокладку альбома.



Алесь Судар. Лідскі замак.




Фрагмент экспазіцыі нямецкіх гравюраў.



Алес Судар. Дождж у Лідзе.



Г. Ёгер. Піўны завод Пупко. 1916 г.

Цікавасць уяўляе арыгінал карціны Г. Ёгера "Піўны завод Пупко", намаляваный ў 1916 годзе.

З сучасных мастакоў, якіх выстаўлена больш дзесяці, вылучаюцца яскравыя працы сябра Саюза беларускіх мастакоў Алеся Судара "Лідскі замак" і "Дождж у Лідзе".

*Яраслаў Грынкевіч.*

# На Віленшчыне шануюць памяць продкаў

*22 кастрычніка 2003 г. у Вільні адбыўся семінар на тэму: "Літва-Беларусь. Культурныя сувязі." Гэта адбылося ў рамках развіцця міжбібліятэчных сувязяў ЦБ г. Вільні і Менска. Прыехала дэлегацыя з Менска, присутнічалі беларусы Літвы.*

*Ад ТБМ Віленшчыны на гэтым семінары са сваім дакладам: "Дзеячы культуры Віленшчыны, ушанаванне іх памяці і нашыя праблемы" выступіў старшыня ТБМ Віленскага краю **Юры Гіль**. Прапануем чытачам некалькі скарочаны варыянт гэтага дакладу.*

Ад імя Таварыства беларускай мовы Віленшчыны я вітаю ўсіх удзельнікаў гэтага семінару, незалежна ад іх палітычных поглядаў.

Спадзяюся, што мае калегі па выступах праўдзіва, аб'ектыўна, без усякіх прыкрас распавядуць аб беларускай прысутнасці ў Літве, нашых поспехах і цяжкасцях, аб тым; як вырашаць гэтыя праблемы, каб культурныя сувязі не ведалі межаў, хаця мяжа, якая існуе цяпер між Літвой і Беларуссю робіць непамерныя цяжкасці у культурных зносінах між нашымі краінамі.

... Наша зямля, Віленшчына, вельмі багатая на дзеячоў беларускай культуры, якія тут на літоўска-беларускім памежжы альбо радзіліся, альбо жылі, працавалі і г. д.

Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Адам Міцкевіч, Уладыслаў Сыракомля, браты Луцкевічы, Браніслаў Тарашкевіч, Адам Станкевіч, Элаіза Пашкевіч (Цётка), Вінцэнты Гадлеўскі, Якуб Колас, Янка Купала, Казімір Сваяк, Ядвігін Ш., Наталля Арсеннева, Рыгор Шырма, Фердынанд Рушчыц, Пётра Сергіевіч, Зоська Верас, Янка Быліна, Францішак Аляхновіч, Язэп Драздовіч, Вацлаў Ластоўскі, браты Іваноўскія, Лявон Луцкевіч, Лявон Кароль, Юры Зімніцкі, Ігнат Дамейка, Зыгмунт Нагродскі, Антон Войцік, Станіслаў Станкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Янка Пазьняк, Янка Багдановіч, Міхась Забэйда-Суміцкі ...

У кожнага з іх свой лёс, свая гісторыя, многія з іх паклалі свае галовы за Айчыну, іншыя былі рэпрасаваныя, імёны многіх з іх былі пад забаронай. Але памяць пра іх жыве, і гэтую памяць мы павінны ўвасабляць у назовах вуліц ці школ, помніках, мемарыяльных шыльдах і г. д.

Патрэбна аддаць даніну павагі старшыні Таварыства беларускай культуры спадару Хведару Нюньку, які ўшанаваў у Вільні памяць многіх дзеячоў беларускай культуры, устанавіўшы мемарыяльныя дошкі (таблічкі):

***Францішку Скарыну,***
***Янку Купалу,***
***Браніславу Тарашкевічу,***
***Кастусю Каліноўскаму,***
***Пятру Сергіевічу,***
***Рыгору Шырму,***
***Вацлаву Ластоўскаму.***

Намаганнямі сяброў ТБК былі пастаўлены помнікі на могілках Росы ***Францішку Аляхновічу*** (драматургу, беларускаму Салжаніцыну), таксама ***братам Івану і Антону Луцкевічам.*** Дарэчы, цяпер фонд братоў Луцкевічаў у Беларусі ўлады закрываюць.

На вялікі жаль, не запрашаны на гэты семінар з выступам сам Хведар Нюнька, які б падрабязна расказаў, як праходзіла ўшанаванне памяці гэтых слынных сыноў Бацькаўшчыны, дзеячоў культуры. Патрэбна зазначыць, што гэта было магчыма зрабіць тады, калі Літва атрымала незалежнасць, дзе і пачала адраджацца беларушчына.

У справе ўшанавання памяці дзеячоў культуры пэўны ўдзел прыняла і прымае наша арганізацыя – ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, хаця мела і мае вялікія цяжкасці у гэтай справе, але поспех ужо ёсць і не малы.

Не было яшчэ юрыдычна аформлена наша ТБМ, а мы ўжо павялі барацьбу за ***Янку Купалу*** з гарадскімі ўладамі г. Вільні, што скасавалі вуліцу на Звярынцы, якая насіла імя паэта. Тады віленскія беларускія "дзеячы" не падтрымалі нас баючыся, што сапсуюць адносіны з Саюдзісам. Нягледзячы на гэта, нам удалося гэтую ўтрату капенсаваць назовам вуліцы Янкі Купалы ў Новай Вілейцы.

Патрэбна было нам ствараць ТБМ ды на законных падставах у адпаведнасці са Статутам і законамі Літвы працаваць на ніве беларушчыны, дзе адзін з кірункаў -- ушанаванне памяці дзеячоў культуры. Не абышлося і тут без цяжкасцяў: знайшліся беларускія "дзеячы", якія рабілі ўсё каб улады не зарэгістравалі ТБМ, указваючы, што мы карысталіся камуністычнымі сродкамі інфармацыі. Дзіўна? Так.

Давялося ісці ў мясцовую ўладу, стаць дэпутатам у раёне і горадзе, каб аблегчыць сваю грамадскую дзейнасць і мець падтрымку. Наладжаны былі добрыя кантакты з паслом РБ у Літве Вайтовічам ды консулам Бобавым, якія нам аказалі падтрымку (транспартам, візамі і г. д.)

Крок за крокам мы пераадольвалі цяжкасці, нягледзячы на безграшоўе. Сваімі высілкамі ў справе ўшанавання памяці было зроблена:

1. На могілках Росы рэканструявалі магілу**Ул. Сыракомлі.**

2. У назовах вуліц ушанаваны імёны:

-*Кастуся Каліноўскага* (Меднікі),

-**Браніслава Тарашкевіча** (Лаварышкі),

- *Францішка Багушэвіча* (Савічуны),

- таксама у Віленскім раёне па нашай ініцыятыве дзве вуліцы атрымалі імя нашага земляка *Адама Міцкевіча* і адна *Уладзіслава Сыракомлі.*

3. Падрыхтавалі адпаведныя матэрыялы і прадставілі біскупу Гарадзенскай дыяцэзіі а. Аляксандру Кашкевічу на прадмет кананізацыі беларускіх святароў:

а) **Адама Станкевіча,** які загінуў у ГУЛагу (Сібір, Тайшэт),

б) **Вінцука Гадлеўскага,** які загінуў ад рук немцаў (Трасцянец).

Трэба зазначыць, што біскуп паабяцаў праз Варшаву гэтыя матэрыялы накіраваць у Рым для вырашэння гэтага пытання.

Але адразу ж пачаліся і няўдачы наконт ушанавання памяці **Ф. Багушэвіча і Б. Тарашкевіча** у назовах Рукойнскай і Лаварышскай сярэдніх школаў, дзе выкладанне прадметаў вядзецца на расейскай і польскай мовах. Кіраўнікі школ па надуманых прычынах адмовіліся назваць школы імёнамі гэтых беларусаў. Педсавет школы у Рукойнах спаслаўся на тое, што **Ф. Багушэвіч**, нягледзячы на тое, што ён прыняў хрост у Рукойнскім касцёле, удзельнік паўстання 1863 г. ды класік літаратуры, ніякага дачынення да Рукойнаў не мае. А ў Лаварышках пайшлі далей, сцвярджаючы, што Б. Тарашкевіч лічыў Вільню "сталіцай" Заходняй Беларусі, ды яго падтрымлівала КПЗБ пры арышце палякамі, забываючы аб тым, што ён аўтар Першай беларускай граматыкі. Дзіўная пазіцыя!

Барацьба за **Ф. Багушэвіча і Б. Тарашкевіча** працягваецца. Нас падтрымліваюць дэпутаты ад іншых партый, за выключэннем АВПЛ, якіх у самакіраванні раёна адпаведна 11 і 16 Сёння дэпутат ад Польскай народнай партыі Р. Мацейканец робіць дэпутацкі запыт на сесіі р-на. Па **Б. Тарашкевічу** працу вядзе дэпутат ад партыі кансерватараў Васіляўскас.

Праводзяцца і іншыя захады ў гэтым кірунку.

Высілкамі нашага ТБМ, як вядома, зроблена ўсё магчымае, каб на будынку Савічунскага ДК і бібліятэкі з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар **Ф. Багушэвіча,** а ў саміх Свіранах на прыватным доме мемарыяльны знак паэту. Сёлета ўстаноўлены там Крыж паўстанцам 1863 г., а цяпер закладзены сквер. У далейшым плануецца ля Крыжа зрабіць міні-капліччку, а ў саміх Рукойнах таксама мемарыяльны знак у гонар **Ф. Багушэвіча**, бо там ён прыняў хрост.

Свіраны знаходзяцца на беларуска-літоўскім памежжы.

Першы верш пра Багушэвічавы мясціны адлюстроўвае магчымыя сувязі ў рамках Літва –Беларусь:

***"Калыска паэта-***
***фальварак Свіраны,***
***Скажу я вам, людзі –***
***тут пуп закапаны.***
***Францусь тут радзіўся,***
***У Рукойнах хрысціўся,***
***А ў Вільні вучыўся.***
***Ён наш, ён тутэйшы***
***Ліцьвін-беларус.***
***Свіраны-Рукойны-***
***Кушляны-Жупраны...***
***Фальваркі, мястэчкі...***
***На сэрцы крывавяцца раны:***
***-памёр у Кушлянах,***
***-ляжыць у Жупранах,***
***-а жыў у Свіранах,***
***Яму тут і гонар,***
***і наша пашана.***

*Юры Гіль.*

Сапраўды. Толькі наша пашана! Бо мы маем факт, як пэўныя людзі прымушалі гаспадыню хаты пад пагрозай "вывазкі ў Сібір і пенсіі, як у Беларусі", здымаць мемарыяльны знак.

Да цяперашняга часу не дазваляюць устанавіць экспазіцыю літаратурнага музея ў Доме культуры, хаця першапачаткова ўсё было дазволена.

Справа дайшла да таго, што загадчык культуры раёна Э. Шот забараніў прымаць у бібліятэку беларусія кніжкі і газеты. А без гэтага дазволу бібліятэкар можа страціць працу і па-гэтаму баіцца. .

Не даюць магчымасці ўстанавіць у Савічунскім Доме культуры экспазіцыю літаратурнага музея Ф. Багушэвіча, хаця туды завезена неабходнае абсталяванне ды экспанатура. Перашкаджаюць арганізаваць пры ДК беларускі дзіцячы гурток (літаратурна-мастацкі) "Свіранскія жаваронкі" ды праводзіць там мерапрыемствы, накшталт багушэвічавых чытанняў і г. д. Нашыя ініцыятывы блакуюцца рознымі спосабамі. Антыбеларускую пазіцыю заняў і ксёндз з Рукойнскага касцёла а. Ян Мацкевіч, які адмовіўся нават асвянчаць крыж у Савічунах, давялося прывозіць ксяндза-ўніята (беларуса) Яна Дакшыса з Вільні. Гэты ж ксёндз Мацкевіч журыў набожную жанчыну сп. Станіславу са Свіранаў за тое, навошта яна дазволіла устанавіць беларусам мемарыяльны знак на яе доме...

... У справе ўшанавання памяці нашых дзеячоў культуры некаторыя лжэпатрыёты беларушчыны пайшлі яшчэ далей. Так адзін з іх на справе Ф. Багушэвіча захацеў зрабіць свой бізнес, паставіўшы там шапікі для гандлю, ды "прыхватызаваць" тое, што зроблена іншымі, не даўшы на Крыж пакуты паўстанцам ні аднаго цэнта. Але зроблена і без іх, будзем рабіць без жулля і далей. Адным словам ёсць што казаць, але некаму слухаць!

Шаноўныя! Многія пытанні патрэбна вырашаць на дзяржаўным узроўні. Літоўскія улады так ці інакш падтрымліваюць усе пачынанні беларусаў у Літве, а чаму не робяць гэтага беларускія ўлады ды іх прадстаўнікі ў Літве.

Адказ адзін. У самой Беларусі ідзе вынішчэнне ўсяго нацыянальнага беларускага. Яскравы прыклад з Беларускім гуманітарным ліцэем, дзе дырэктар Ул. Колас. Дзецям няма дзе займацца, іх выселілі з будынка. Наша ТБМ не засталася ў баку, а паслала ў Беларусь для іх 150 падручнікаў, якія будуць першымі снарадамі ў бок ворагаў беларушчыны. Мы не заклікаем да гвалту, мы за адраджэнне беларушчыны, за ушанаванне памяці нашых слынных сыноў Бацькаўшчыны, як там, так і тут, незалежна ад іх нацыянальнасці.

Нам дарага імя **Фердынанда Рушчыца** з Багданава (Беларусь), яго імя звязана таксама з Вільняй, з нашым каталіцкім касцёлам, што на Зарэччы, дзе а. Ян Шуткевіч праводзіць свае набажэнствы на беларускай мове. Тут Рушчыц ішоў пад вянец, браў шлюб у гэтай святыні, жыў непадалёку ад касцёла. Ён запавядаў пахаваць сябе на цвінтары касцёла, але гэтага не зрабілі. Напэўна беларусам разам з палякамі і літоўцамі патрэбна ўшанаваць гэтае імя ў адпаведнай мемарыяльнай шыльдзе. Мы будзем у далейшым за гэта змагацца.

Як тут не ўзгадаць імя нашага земляка **Ігната Дамейкі**, аднаго з прадстаўнікоў слаўнага роду Дамейкаў, чалавека з вялікай літары. Ён дарагі кожнаму, беларусу, літоўцу, паляку, французу, чылійцу - усяму чалавецтву за яго навуковыя адкрыцці.

На Беларусі, на Віцебшчыне, у нейкіх шасці км ад "Засьцянковай хаткі" (гістарычна-этн. музея ТБМ Віленскага Краю) знаходзіцца двор Сітцы – радзіннае "гняздо" роду Дамейкаў. Тут, у Сітцах, па сцвярджэнні радні (нашчадкаў) Дамейкі, што жывуць у Францыі і нарадзіўся ўсяму свету вядомы Ігнат Дамейка, мемарыяльную дошку якому паставілі літоўскія ўлады на сцяне брамы Базыліянскіх муроў да яго юбілею.

А чаму беларускім уладам там, у Сітцах, дзе захаваўся 300-гадовы дуб, сведка многіх падзей, брама 18 стагоддзя, парк і г. д. не адкрыць адпаведную мемарыяльную шыльду. З гістарычным гуртком Сітцаўскай школы, які займаецца краязнаўствам і падтрымлівае сувязі з нашым ТБМ, увогуле ніхто не лічыцца. "Засьцянковая хатка" ды наша ТБМ устанавілі кантакты з землятцвам "сітчан" у Менску, якія гатовы быць фундатарамі ўшанавання памяці роду Дамейкаў і праца ў гэтым кірунку працягваецца. Але тут патрэбна дапамога Консульства РБ у Літве ў набыцці ўязных візаў для вырашэння пытанняў ушанавання памяці нашых дзеячоў. У выніку абыякавых адносін беларусаў, гэтым пытаннем займаюцца палякі, якія збіраюць сабе гістарычную памяць нашых землякоў, слынных людзей Вялікага Княства Літоўскага.

На Беларусі ўшанаваннем памяці Тадэвуша Касцюшкі цяпер займаецца амбасада Польшчы, ахвяраваўшы на адбудову сядзібы вялікія грошы. А Беларусь у сваю чаргу "апякаецца" А. Суворавым, які ў свой час задушыў паўстанне ды атрымаў ад царскага ўраду тысячы прыгонных сялян-беларусаў у сваё распараджэнне.

**Браты Луцкевічы – Іван ды Антон**, а таксама ўсім вядомы **Лявон Луцкевіч**. Іх імёны павінны быць ушанаваны у Літве. Лепшым помнікам для іх павінна быць узнаўленне у Вільні музея. Гэтую справу патрэбна працягваць, але не рабіць на ёй спекуляцый, ствараючы музей у віртуальнай прасторы ды робячы на гэтым "бізнес".

Старшыня ТБК Літвы спадар Нюнька Х. у справе ўзнаўлення музея ды вяртання некаторых экспанатаў з фондаў Літвы атрымаў падтрымку з боку прэзідэнта Літвы, але у гэтую справу "улез" спадар Вітушка, які нібы за плячыма усіх зарэгістраваў музей ды пачаў выбіваць грошы. Гэта ўсё можа і добра, але ці ёсць вынікі і якія?

У аснове ўсякай культуры ляжыць рэлігія. Мы, католікі-беларусы Літвы, шчаслівы, што віленская каталіцкая Курыя пайшла насустрач, каб у Вільні малітва загучала і на роднай мове. Тут яшчэ ёсць шмат праблем, але мы будзем спадзявацца на лепшае. У справе барацьбы за касцёл актыўны ўдзел прымала і хрысціянская секцыя нашага ТБМ. Гэта пацвярджаецца нашымі дзеяннямі, зафіксаванымі ў адпаведных дакументах ды зваротах, просьбах, хадатайніцтвах, а галоўнае – у малітве да Бога.

Родная мова і малітва на роднай мове гучыць у "Засьцянковай хатцы", што ў Вашунове Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. Гэта моцны асяродак беларушчыны, гэта структурнае падраздзяленне нашага ТБМ. На працягу 10 год тут праводзіліся і праводзяцца розныя мерапрыемствы.

І ў заканчэнне я зноў звярнуся да ўшанавання памяці Францішка Багушэвіча - бацькі нашага Адраджэння.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Віленскага Краю кожны год, традыцыйна, у апошнюю суботу сакавіка будзе праводзіць свята паэзіі ды Багушэвічавы чытанні на радзіме Ф. Багушэвіча ў фальварку Свіраны Рукойнскай сянюніі Віленскага раёна.**

ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю свае мерапрыемствы праводзіць саматугам, мы не маем ніякай падтрымкі з боку ўлад. Спадзёмся на свае сілы.





# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Я добра разумею, што пішу ўспаміны а не рэцэнзію савецкіх дакументаў. Аднак, напаткаўшы вышэй упамянуты дакумент, не магу ўстрымацца ад некаторых каментараў.

І так:

У першай табліцы паказана, што з 9084 вывезеных беларусаў аж 9002 г. зн. 99,1% былі АСАДНІКАМІ. Гэта няпраўда, гэта савецкая выдумка, хлусня. Паміж асаднікамі ў Заходняй Беларусі не было аж так многа беларусаў; былі толькі адзінкі. Дзеля прыкладу на нашым пасёлку было толькі дзве сям'і асаднікаў-беларусаў (Лагота і Крыўчун).

Мы ведаем, што бальшыня арыштаваных і вывезеных беларусаў былі леснікамі. А вось у табліцы леснікоў зусім не ўспамінаюць, іх зусім НЯМА. Дзе ж яны падзеліся?

Лічба 9084 вывезеных беларусаў выглядае тако ж вельмі нізкай.

Дык чаму Саветы фальшавалі нацыянальны і сацыяльны стан беларусаў, залічваючы іх усіх да асаднікаў?

Мы, натуральна, не ведаем чаму так рабілася. Але можна падазраваць, што Берыя і яго паплечнікі з Камітэта дзяржаўнай бяспекі дакладалі да цэнтральнага Камітэту УКП(б) і самому Сталіну, што з Беларусі вывозілі толькі асаднікаў, а не беларусаў-леснікоў і хлебаробаў. Ад савецкай улады пабудаванай на хлусні можна ўсяго спадзявацца.

І яшчэ адна заўвага. Колькасць вывезеных беларусаў (9084) і украінцаў (9334) ёсць амаль аднакавая. Але, калі ўзяць пад увагу колькасць беларускага і украінскага насельніцтва ў Зах. Беларусі і Зах. Украіне, то працэнт вывезеных беларусаў ёсць у 2,5 разы вышэйшы ад вывезеных украінцаў. Такая была праўда, такая была рэчаіснасць.

### ПРАЦОЎНЫЯ БРЫГАДЫ

Вывезлі нас на поўнач Расеі, да драмучых лясоў тайгі. Нашым галоўным абавязкам была высечка лесу г. зн. выразка лясоў, звозка дрэва да жалезнай дарогі, ладаванне на вагоны. Дзеля гэтага трэба было працаваць усім, мужчынам, кабетам і падлеткам ад 16 гадоў; у практыцы працавалі дзеці ад 14 гадоў, калі ў сям'і не было бацькі ці працоўных людзей.

Хутка пасля прыезду на пасёлак пачалі арганізоўваць працоўныя брыгады лесасекаў і да іншых работ. Лесавысечкай г.зн. выразкай дрэваў займаліся мужчыны. У брыгаду лесасекаў дабіраліся свае людзі, пераважна аднавяскоўцы альбо з людзей, якія зналіся яшчэ дома, на Палессі. Выбіралі брыгадзіра. Павалка дрэваў, пераважна ёлкі, адбывалася ўручную, пры дапамозе лучка г. зн. тонкай і вузенькай пілы на адну асобу. Пілы на дзве асобы ўжывалі кабеты, старыя людзі і дзеці.

Кабеты і падлеткі працавалі тако ж з нашымі. Зваленае дрэва цягнулі (даслоўна) на біржу альбо да чыгункі, круглы год, зімой і летам. А коні, як і людзі, былі слаба кормлены і часта не былі ў сілах цягнуць цяжкае дрэва. Але норму трэба было вырабіць.

А вырабка нормы залежала больш ад каня, чым ад кіроўцы. Дык нічога дзіўнага, што з-за коней былі спрэчкі, сваркі паміж людзьмі.

На біржы дрэва сартавалі і рэзалі на адпаведныя кавалкі. Потым грузчыкі гру-зілі дрэва на вагоны. Усё гэта рабілася рукамі і плячамі; не было ніякай механізацыі.

Нормы. Ах, гэтыя нелюдскія нормы. Там, амаль на ўсялякіх працах была устаноўлена норма. Хто гэтыя нормы ўстанаўляў, ніхто не ведаў. А нормы да выканання былі высокія, цяжкія да вырабаткі. Людзей ці брыгады якія выраблялі нормы называлі ці то "ўдарнікамі" ці то "стаханаўцамі", а потым апісвалі іх у раённай газеце пад назовам "Плесецкий лесоруб".

Варта запазнацца з гэтай газетай з 1940-41 гадоў, каб даведацца назовы пасёлкаў з беларускімі спецперасяленцамі.

За працу плацілі раз у месяц. Зарплата была розная, у залежнасці ад працы. Найлепш плацілі лесасекам.

Дзесятнікі запісвалі колькі брыгада вырабіла і падавалі ў кантору. Акрамя гэтага кожны брыгадзір падаваў у кантору "каэфіцыент" на кожнага працаўніка ў сваёй брыгадзе. Дык асабісты заработак лесасека залежаў ад аб'ёму высечанага дрэва і ад каэфіцыента. З нагоды гэтага "каэфіцыента", былі часам сваркі, спрэчкі і нараканні.

Акрамя працы ў лесе, людзі–перасяленцы працавалі і на іншых, розных працах як: у канюшці, у кухні, лазні, пякарні, летам пры сенакосе і д. п.

Людзі наракалі на нізкую зарплату. Бедныя спецперасяленцы не ведалі, што да 10% іхняй запрацованай платы адцягвалі на "ўтрыманне раённых і пасялковых камендантур" і на іншыя выдаткі. Гэтак пастанавіў Л. Берыя яшчэ 29.12. 1939 г.

На пасёлку былі сем'і з малымі дзецьмі без мужоў. Гэтай катэгорыі людзей было вельмі цяжка жыць, бо адна працоўная кабета мусіла зарабіць і выкарміць цэлую сям'ю; не было грошай. Праўда, такім людзям кантора давала залічку г. зн. пазыку, якую потым адлічвалі ад заробленай платы. Гэта, на жаль, не развязвала праблемы

У нашай вялікай сям'і з 9 душ было 6 працоўных. Дык, у нас не было праблемы з грашыма. З трох непрацоўных былі мая бабка Наталля, малодшая сястра Зося і я. Сястра Зося і я былі тако ж памочнымі. Я, напрыклад, зімой і летам хадзіў з лучком у лес, каб нарэзаць дрэва для печкі. Потым гэтае дрэва прывозіў да барака, рэзаў на кавалкі, калоў. Распальваў печку так што, як вярталіся родныя з працы, у хаце было цёпла.

Акрамя гэтага, сястра Зося і я дзень у дзень хадзілі да кухні па яду і ў краму па хлеб.

Спецперасяленцы працавалі шэсць дзён у тыдзень а сёмы дзень (нядзеля) быў вольны ад працы. А колькі гадзін трэба было працаваць у дзень ніхто не ведаў ды і не звяртаў увагі. Важнейшым за ўсё было выканаць дыябальскую норму чым адбыць на працы прадпісаны час, калі такі быў.

### ЗІМА І ЛЕТА

Зіма ў Архангельскай вобласці вельмі доўгая, халодная. Марозы часта даходзілі да - 40 гр. С., а часам і ніжэй. Але рэдка было, каб людзі не хадзілі да працы з-за вялікіх марозаў. Многа людзей адмарожвалі пальцы на нагах. Адзін чалавек нават памёр ад марозу.

Снег пачынаў падаць у кастрычніку і цягнуўся аж да траўня месяца. Памятаю, што 1-га траўня яшчэ ляжаў снег.

Зімой дзень быў кароценькі, а ноч вельмі доўгая. Дзеля гэтага людзі ішлі да працы і вярталіся з працы ў цемнату. Зімой, у цемнаце, валка дрэва была небяспечная.

Лета ў Плясецкім раёне было кароткае, прыблізна тры месяцы(чэрвень-жнівень). Дні доўгія. Сонца амаль што не заходзіць. Няма вялікай розніцы паміж днямі і начамі. А да гэтага - лета вельмі цёплае, гарачае. Поўна мух і камароў, так што людзі і коні не ў стане ад іх адагнацца. Дзеля гэтага, летам лесасекі, звозчыкі з конмі, работнікі на біржы працавалі ў "начы", калі было халадней, і не было столькі мух і камароў. А адпачывалі (спалі) ў дзень.

Са спаннем тако ж была праблема. Справа ў тым, што ў бараках было поўна блашыц, на якія не было ніякай рады.

Хоць лета было кароткае, флора там абітная. За гэты кароткі час прырода ўспыхвае ўсёй сваёй прыгажосцю. Дрэвы распускаюцца, трава вырастае, розныя лясныя кветкі зацвітаюць, брусніцы, ягады і д. п. паспяваюць, адным словам, улетку там прыгожа.

Летам часта бывалі пажары. Гарэлі лясы. На тушэнне пажараў ішлі ўсе работнікі, школьнікі, старыя людзі. Трэба сказаць, што ўсе людзі сумленна стараліся тушыць пажары. Тут не было абыякавасці да прыроднай катастрофы.

Лес загараўся пераважна ад іскры з паравозаў якія ездзілі ад станцыі Емцы да 10 квартала (наш лагер), да Астроўскага лесапункта і да лагера Нухта-возера.

Каб не дапусціць пажараў, уздоўж чыгуначнай каляі ўстанаўлівалі дзяжурных, якімі былі пераважна кабеты.

Варта тут зазначыць і падкрэсліць, што падчас нашага двухгадовага перабывання ў лагеры, не было ніякіх новых пасадак лясоў на высечаных плошчах. А ўжо былі відны вялікія, пустыя паласы. Можна спадзявацца, што пры такой "гаспадарцы", там з часам будзе эрозія зямлі.

### ГАБРЭІ І РУСКІЯ СПЕЦПЕРАСЯЛЕНЦЫ

У ліпені 1940 года прывезлі да нашага пасёлка многа габрэяў з сем'ямі з Польшчы, якія ўцякалі ад немцаў на ўсход у 1939 годзе. Тыя габрэі, якія апынуліся на 10-ым квартале, прыехалі туды з Беласточчыны (тады БССР).

Хоць габрэі былі пад Саветамі на Беласточчыне ўсяго 10 месяцаў, але за гэты кароткі час добра пазналі іхні лад: бачылі арышты і дэпартацыі нявінных людзей. Каб пазбегнуць падобнага лёсу самім, многа сярод габрэяў пастанавіла вяртацца дамоў да цэнтральнай Польшчы. Паверылі Саветам і запісаліся на рэпатрыяцыю да Польшчы, якая была пад нямецкай акупацыяй. Не ведалі яны тады, што іх чакае, калі вернуцца...

Заладавалі іх да пасажырных вагонаў. Потым, ужо ў замкнутых вагонах, адправілі іх на... ўсход, на катаргу. Можна сабе ўявіць злосць і нараканне гэтых габрэяў, як "бацька народаў"– Сталін са сваімі паплечнікамі іх ашукаў.

Няшчасныя габрэі! На нашым пасёлку паміж імі была пераважна інтэлігенцыя, фабрыканты, адвакаты і д. п. Да цяжкай фізічнай працы, як да лесасекі, да пілы, да сякеры, да рыдлёўкі яны не былі прывычныя і да яе не спадзяваліся. Яны вучыліся працаваць розумам, пяром, рознымі фахамі.

Управа пасёлка сфармавала брыгады лесасекаў з габрэяў. Але яны не выраблялі нормаў. Мала зараблялі. Быў адзін смяротны выпадак падчас спускання дрэва.

Управа лагера пастанавіла выправіць такую сітуацыю. Брыгады лесасекаў зрэфармавалі і габрэяў параздзелялі па брыгадах з беларусаў і палякаў. Гэта толькі трохі развязала праблему; былі нараканні адных і другіх. Не ўсе ў брыгадзе зараблялі аднолькава, а залежала гэта і ад каэфіцыента, які выстаўляў брыгадзір для кожнага лесасека.

Па пэўным часе, частку габрэяў перавезлі да паблізкага пасёлка пад назовам Астроўскі лесапункт. Вось некаторыя прозвішчы габрэяў: Вайнтраўб, Зімер, Літман, Рубінштэйн, Швэд, Эльсон.

Восенню 1941 года, пасля пачатку нямецка-савецкай вайны, прывезлі да нашага пасёлка трохі рускіх людзей з сем'ямі. А лёс іх быў наступны.

Яны былі родам ад Урала. У трыццатых гадах іх вывезлі, як спецперасяленцаў, да савецка-фінскай мяжы на лесавысечку. А калі пачалася нямецка-савецкая вайна ў 1941 годзе, гэтых людзей, як "неблагонадёжный элемент", вывезлі адтуль і прывезлі да нашага лагера.

Гэтыя людзі зналіся на лясной рабоце, былі працавітымі. Яны хутка ўжыліся ў шэрае, лагернае жыццё. Сфармавалі свае брыгады.

Суадносіны паміж спецперасяленцамі беларусамі, габрэямі, палякамі і рускімі былі добрыя, чалавечныя. Ніякіх антаганізмаў.

### АГАРОДЫ. ЯГАДЫ. КАЗЛЯКІ.

Вясной 1940 года адміністрацыя лагера запрапанавала ўсім людзям даць замельныя ўчасткі. Давалі коней для апрацоўкі зямлі, конскі гной, насенную бульбу і аўсяное насенне. Участкі былі каля самых баракаў.

Зародныя людзі пасадзілі бульбу і, некаторыя, пасеялі авёс. Але не ўсе. Некаторыя людзі пастанавілі бульбы не садзіць, а насенку з'есці. Мала гэтага, пачалі рабіць насмешкі з зародных людзей, што "...ім тут добра... што яны хочуць тут ужо загаспадарвацца, жыць на стала..." і т. д.

Прыйшла восень і быў вельмі добры ўраджай бульбы.

Людзі зрабілі добры запас бульбы на зіму і вясну. Наша сям'я тако ж пасадзіла многа бульбы. Была, аднак, праблема дзе яе схаваць зімой, зберагчы ад вострых марозаў. У бараку каля печкі, пад падлогай, мы выкапалі вялікую яму. Там і палажылі бульбу. Там яна (бульба) ў нас не замярзала.

Варта тут успомніць, што хоць лета там кароткае, але яно гарачае. Да гэтага, дні доўгія. Дык бульба і авёс паспяваюць вырасці.

Восенню ў лясах поўна ягад. Божа, колькі там ягад. Раслі там яшчэ маліны і брусніцы.

Мясцовыя людзі расказалі нам пра ягады-марошкі, пра якія мы ніколі не чулі. Марошак не было на Палессі. Сказалі нам тако ж, дзе яны растуць. Марошкі растуць на балоце, з іржавымі і пахучымі ягадамі. Ягады вельмі смачныя. Мы збіралі гэтыя ягады-марошкі. Мы іх не сушылі і не ведаю ці яны (марошкі) надаюцца да гэтага.

Восенню поўна казлякоў-казакаў у лясах. Дома, на Палессі, гэткія казлякі мы называлі "краснюкамі" г. зн. чырвонагалоўкамі. Растуць яны там, як і на Беларусі, каля бярэзнікавых дрэваў і ў ягадніках. Іх там расло так многа, што ў адным месцы можна было назбіраць поўны кош. І то маладзенькіх, чыстых, выбраных.

Мая малодшая сястра Зося і я хадзілі амаль што дзень у лес то па ягады, то па "краснюкі", то па брусніцы. Потым ягады і краснюкі сушылі і рабілі запас. Нам не трэба было гэтага вучыцца, бо мы такое, штось рабілі ўсё, ад маленства. А брусніцы варылі і трымалі ў розных вёдрах, пасудах.

### ГАЗЕТЫ. АБЫХОДЫ.

У раённым гарадку Плясецк, на Волагда-Архангельскай чыгунцы, выходзіла газета пад назовам "Плесецкий лесоруб". Гэтую газету нам дазвалялі выпісваць, што наша сям'я і рабіла. Як і ва ўсіх раённых газетах, тут апісвалі жыццё жыхароў Плясецкага раёна. Апісвалі, між іншым, якая брыгада выканала норму, колькі выразала кубічных метраў і т. д. Падавалі прозвішчы брыгадзіраў, людзей, назовы пасёлкаў. Гэтая газета павінна быць добрай крыніцай для гісторыкаў, якія цікавяцца вывазкай украінцаў у 1930-ыя гады і беларусаў у 1940 годзе.

У Архангельску выходзіла "Северная правда". Але нам не дазвалялі выпісваць гэтую газету. А аб цэнтральных газетах, як "Правда" ці "Известия", не можна было нават марыць.

Аб насценнай газетцы я ўжо ўспамінаў.

Згодна з загадам каменданта, нам трэба было адсвяткаваць 1-га траўня і 7-га лістапада. На гэтыя дні давалі да магазіна трохі гарэлкі. А школьнікі выпісвалі "лозунгі", якія выхвалялі Савецкі Саюз, Камуністычную партыю, Кастрычніцкую рэвалюцыю і "бацьку" Сталіна. У нашых абставінах, гэта было цынізмам, здзекам над пачуццямі нашымі.

*(Працяг у наст. нумары.)*

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### ПРАРОК

Калі вячоркі ў разгары, прапаноўваюць такую гульню. Выбіраюць аднаго "пракорам". Яго садзяць пасярэдзіне хаты і накрываюць галаву цёмнай хусткай. Усе вячорачнікі ходзяць вакол яго па кругу і па адным ці некалькі кладуць яму руку на галаву. "Прарок" павінен злавіць каго-небудзь за руку і жартоўна прадказаць яму будучыню, напрыклад:

— У ноч на Тройцу да цябе прыйдзе цешча і скажа: "Зяцёк, падсунься, падсунься, тут будзе спаць мой кот Марцік", — альбо: — Пойдзеш ты на гулянку, а па дарозе сустрэнецца сабака. І давядзецца табе шыць новыя штаны.

Калі чарга апошняй рукі, "прарок" кажа:

— Адчуваю, што добрая, гарачая рука. Прыйдзецца табе разам з іншымі кінуцца ў скокі. Зайграйце, музыкі!

Зноў гучыць музыка, скокі працягваюцца.

### ПРЫПЕЎКІ

Усе ахвотныя сядаюць на лаву ў адзін рад. Вядовец ці вядоўца кажа якое-небудзь слова з прыпевак. Гульцы павінны хутка пачаць прыпеўку. Хто першы пачаў і прапеў, той выходзіць з гульні. Калі застанецца апошні, то, як кару, ён павінен праспяваць пяць альбо дзесяць прыпевак.

Спяваюць пад гармонік ці баян.

### ЛЯЦЕЛІ ДЗВЕ ПТУШКІ

Гэта карагодна-песенна-музычная гульня.

Хлопец і дзяўчына ("ластаўкі") становяцца ў цэнтры, а астатнія ўзяўшыся за рукі, робяць кола вакол іх і спяваюць:

*- Ляцелі дзве птушкі,*
*Ростам невялічкі,*
*Чарнявая мая, чарнавокая.*

У гэты час дзве "ластаўкі" выконваюць "палёт".

Карагод спявае далей:

*- Ляцелі, ляцелі,*
*Селі, пасядзелі, —*

На гэтых словах "ластаўкі" прысядаюць.

*- Сталі кахацца,*
*Крыламі абдымацца,*

Абдымаюцца.

*- Потым сталі танцаваць,*
*Вельмі добра выбіваць.*

Танцуюць.

*- Сталі раставацца,*
*Моцна цалавацца.*

Цалуюцца.

*- Ляцелі две птушкі,*
*Ростам невялічкі,*
*Чарнявая мая, чарнавокая.*

Выконваюць "ластаўку".

Пары ў цэнтры мяняюцца. Якая пара ўсё робіць лепш, тая і пераможца.

### ЛАБІРЫНТ ЛІСЫ

Адзаго з удзельнікаў вечарыны выбіраюць "лісой". Ён павінен абысці парасстаўляныя розныя прадметы (ці саміх удзельнікаў) так хітра, каб не зачапіць нікога і нічога.

### ПЕЎНІКІ - ТАНЦОРЫ

У гульні ўдзельнічае некалькі пар хлопцаў. Кожны сашчэплівае рукі за спіной і падымае сагнутую ў калене правую нагу. Пад вясёлую польку яны пачынаюць скакаць на адной назе і грудзямі збіваць адзін аднаго. Як хто стаў на дзве нагі, той выходзіць з гульні, і так пакуль не застанецца адзін "пеўнік" — пераможца.

### ВОСЕНЬСКАЕ ЛІСЦЕ

Для гульні трэба лісце дрэў розных парод: бярозы, клёна, дуба, асіны і інш. Яго кладуць у скрыню або дзежку.

Вядовец прапануе ўдзельнікам гульні ўзяць колькі хто хоча розных лістоў — і аб'яўляе танец (вальс, танга, польку). Танцуюць толькі тыя пары, у каго ў руках лісце. Па заканчэнні танца вядовец просіць падлічыць лісты — напрыклад, толькі кляновыя. У якой пары іх болей, становіцца пераможцай. Пасля наступнага танца падлічваюцца іншыя лісты.

## ГУЛЬНІ НА СВЯТЫ

### ГАДАЛЬНАЯ ГУЛЬНЯ НА КУЦЦЮ

Калі збяруцца ў адну хату дзяўчаты, то пасылалі адну, каб прынесла ахапак сена. Прынёсшы, яна падымала сена ўгору дзвюма рукамі, а дзяўчаты хадзілі вакол яе і цягнулі па адной сцянінцы, прыгаворваючы: "Што даўжэй, той да лёну хутчэй". Калі кожная выцягне, пачыналі мераць. У каго будзе самая доўгая, тая будзе першай лён сеяць альбо яшчэ і замуж пойдзе ў гэтым годзе.

*(Гуляць можна пад музыку песні "Ох і сеяла Ульяніца лянок".)*

### ГУЛЬНЯ-ГАДАННЕ НА ШЧОДРЫКА

Да таго, як ісці шчадраваць, збіраліся ў якой-небудзь адной хаце. А ў двары заўсёды былі складзены дровы. Кожны гуртовец з заплюшчанымі вачыма выцягваў паленца. Калі хто выцягнуў сукаватае, грубае, то чакай багатага жаніха ці нявесты, а як гладкае, лысае — то беднага.

### КАРАГОД-ГУЛЬНЯ "КОНІК"
(На Шчодрыка)

Галаву "коніка" рабілі на кійку — вясёлую, прыгожую маску, на якой ён як бы іржаў. Хлопец-"конік" трымаў кіёк паміж ног. Посцілка пакрывала хлопца з нагамі, ззаду прычэплівалі доўгі конскі хвост, і было поўнае ўражанне, што перад намі вершнік. Часта іх было два — даросль і маленькі.

"Конік" ідзе па вуліцы і весела, з гігіканнем запрашае шчадраваць. Потым ён узначальвае гурт шчадроўнікаў у абходзе дамоў: весяліць у карагодным коле, бяжыць галопам па вуліцы, выбрыквае перад хатамі, трасе грывою, круціць хвастом, прысядае на заднія ногі, высока задраўшы галаву, падае зняможаны. Гурт шчадроўнікаў вядзе дыялогі з гаспадарамі — просіць яму "мерку аўса", "грошы на авёс", "піціесці даці".

Вакол "коніка" водзяць шчадроўныя карагоды: то сходзяцца да цэнтра кола, прысядаюць ля "коніка", а ён, весела заржаўшы, узвышаецца над імі, то "конік" у цэнтры кола скача свой танец, а карагоднікі плясканнем ствараюць яму рытм, прыпяваюць, самі ўслед за ім скачуць, разыходзяцца і зыходзяцца ў карагодзе. Адна з карагодніц падыходзіць да стомленага "коніка", прыгаворваючы, ласкава гладзіць яго па грыўцы, бярэ за аброць і ставіць першым у карагодзе. Стаўшы ўслед, адзін за адным, удзельнікі паўтараюць хвалевыя рухі (вілюжкі па-мясцоваму), і ўсе разам ідуць да гаспадара, кланяюцца яму з надзеяй на добрую ахвяру: хлеб, сала, каўбасу, грошы, чарку. Удзячна спяваюць хатнім велічальныя песні-ідэалізацыі, адорваюць вяселлем, смехам, гумарам, жартамі, скокамі, танцамі, музыкай.

Асноўны рух карагоднага гурта: пачынаючы з правай нагі, усе ідуць простым крокам у рытм песні ці танца.

Калі ідуць у цэнтр да "коніка", робяць крок-падскок з правай нагі, разыходзяцца ад "коніка" - таксама.

Калі ідуць за "конікам", робяць крок-падскок з вынасам нагі ўбок і пляскаюць у далоні.

Рухі "коніка" ў танцы — ганарлівыя, дынамічныя, вясёлыя, з гумарам.

Самай прыгожай часткай такіх карагодаў з'яўляюцца песні з вобразам коніка, якіх бясконца многа сярод шчадровак і нават сярод казацкіх, накшталт наступнай:

Ой, косю, мой косю,
Косю вараненькі,
Прадам цябе, косю,
За талер драбненькі.
Не будзеш там есці
Шаўковай травіцы,
Не будзеш там піці
Крынічнай вадзіцы.
Цябе будуць біці,
Косю, батагамі,
А я буду плакаць
Горкімі слязамі.
А хто ж табе, косю,
Там грыўку расчэша,
А хто ж табе, косю,
Сардэнька пацеша.
Ой, косю, мой косю,
Косю вараненькі,
Няхай прападае
Талер бяленькі.
На талер драбненькі
Я не разжывуся,
З табою, мой косю,
Я не разлучуся.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 2. Факел. 4. Наговор. 6. Зеркало. 9. Жалюзи. 12. Резина. 13. Скука. 14. Льдина. 15. Крыша. 16. Звук. 17. Тёрка. 19. Кофе. 21. Тлен (прах). 23. Слюна. 17. Муки. 29. Мерзкий. 30. Толока. 35. Замазка (ваконная). 36. Лемех. 37. Шорник. 38. Сапог. 39. Удачный. 42. Кроткий. 45. Насовсем. 49. Рабочий, связывающий брёвна в плоты. 51. Мошенник. 52. Раздел. 53. Рок. 54. Нео (першая частка складаннага слова, якая азначае "новы"; напр., у слове "Неологизм"). 55. Бечёвка. 56. Качество. 57. Одиночество.

**Па вертыкалях:** 1. Язык (речь). 2. Совет (што рабіць). 3. Ёлочка. 4. Приобретение. 5. Маяк. 7. Расход (потеря). 8. Защита. 10. Строй (вяароў). 11. Того (родн. скл. ад "тот"). 14. Укроп. 18. Оса. 20. Лишь бы (только бы). 22. Добродушие. 24. Чётное число. 25. Боярышника (родн. скл.). 26. Произведения. 28. Дёшево. 31. Икона. 32. Шаги. 33. Лыжи. 34. Обман (состояние абманутого). 40. Трясина. 41. Лить (пра моцны дождж). 42. Нюня. 43. Каменщик. 44. Почка (анат.). 46. Выгул (жывёлы). 47. Подъём. 48. Обезьяна. 49. Барыня. 50. Брось.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 11. 2003 г.
Наклад 2600 асобнікаў. Замова № 2542.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)